# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 34 (1278) ГОД XXV БЕЛАСТОК, 24 ЖНІЎНЯ 1980 г. ЦАНА 2 зл.

КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

## Вярсток

Вандруючы па Беласточчыне, заўсёды трэба быць насцярожы, бо тут нават у самым маленькім мястэчку ці ўрослай у лес вёсачцы можна наткнуцца на сляды падзей, пра якія мы нават і не здагадваемся. Возьмем невялічкае, з 26 гаспадаркамі, сяльцо Вярсток, што знаходзіцца ў сямі кіламетрах на паўднёвы ўсход ад сялібы сваёй гміны — Дубіч Царкоўных. Першае вядомае нам упамінанне пра яго адносіцца да 1574 года. Магчыма, што гэта было паселішча асочнікаў вялікага князя літоўскага, [illegible]вязаных ахоўваць паўднёва-заходнюю ўскраіну тадышняй Камянецкай (цяперашняй Белавежскай) пушчы. Спачатку Вярсток знаходзіўся на граніцы ваяводства Берасцейскага з ваяводствам Падляшскім, а пасля уніі 1569 г. тут пралягла мяжа паміж Вялікім княствам Літоўскім і Каралеўствам Польскім. Водгулле якраз гэтых падзей мне давялося пачуць у згадцы 74-гадовага Мікалая Канарэўскага пра нейкую мяжу ці рубеж, што праходзіў на поўнач ад сяла. Вярсток лічыў сябе „Літвою", а вёскі з-за гэтага рубяжа — Чэхі, Дубічы, Сток — ужо належалі да „Кароны". Калі злодзею ўдалося перагнаць украдзенага вала ці гурт авечак цераз гэтую граніцу, розыск пакражы спыняўся. Але зусім не „крыміналкамі" запісана гісторыя гэтай мясцовасці.

Ва ўрадавай гарадской кнізе староства берасцейскага застаўся запіс пра тое, што 10 сакавіка 1625 года падстарасту

(Працяг на стар. 3)



IX З'ЕЗД БГКТ

## Вучымся шанаваць і развіваць нашу культуру...

(З ВЫСТУПЛЕННЯ АЛІНЫ БАРТАШУК — ДЭЛЕГАТА З БЕЛЬСКА)

Выступаючы ад імя школьнай арганізацыі БГКТ пры Бельскім беларускім ліцэі, вучаніца гэтага ж ліцэя А. Барташук падкрэсліла:

— Ліцэй наш не толькі вучыць здабываць грунтоўныя веды, у ім мы паглыбляем валоданне роднай беларускай мовай, вучымся таксама шанаваць і развіваць культуру і традыцыю свайго асяроддзя, знаёмімся з роднай гісторыяй.

Яна расказала з'езду, што ў ліцэі існуюць розныя формы культывавання беларускай культуры і традыцыі. Працуе тут, між іншым, вакальны калектыў, які штогод прымае ўдзел у конкурсе „Беларуская песня" і заўсёды займае ў ім высокія месцы. Папулярны таксама школьны драматычны гурток, і яго дасягненні не малыя: у мінулым годзе бельскія ліцэісты-акцёры на цэнтральным аглядзе тэатральных калектываў БГКТ занялі другое, а ў гэтым годзе першае месца. Вучні гэтага ж ліцэя былі пераможцамі ў чытальным конкурсе, а таксама ў іншых конкурсах. У ліцэі працуе гурток беларускай народнай вышыўкі. Яго члены матывы для сваіх прац шукаюць у колішняй мясцовай народнай вышыўцы. Наогул ліцэй імкнецца стварыць кожнаму вучню магчымасць усебакова развіваць свае мастацкія здольнасці. Вялікай папулярнасцю тут карыстаецца беларуская літаратура. Моладзь не толькі ахвотна ўдзельнічае ў сустрэчах з беларускімі пісьменнікамі, але таксама шэраг ліцэістаў спрабуе сваіх сіл у літаратурнай творчасці на роднай мове з абяцаючымі вынікамі.

Кожны ліцэіст з'яўляецца сталым падпісчыкам „Нівы", штогод набывае „Беларускі каляндар", папулярызуе гэтыя і іншыя выданні БГКТ у сваім асяроддзі. Большасць ліцэістаў — гэта вясковая моладзь. Яна не абмяжоўваецца навукай і дзейнасцю ў школе, прымае таксама актыўны ўдзел у



культурным і грамадскім жыцці сваіх вёсак, часта з'яўляецца маторам маладзёжнага і мастацкага руху ў сваіх мясцовасцях.

У заканчэнні свайго выступлення А. Барташук сказала:

— У верасні бягучага года ў нашым ліцэі адбудзецца другі ўжо з'езд абсальвентаў нашай школы. Настаўнікі і мы, вучні, рыхтуемся да гэтай вялікай урачыстасці і шчыра запрашаем на яе ўсіх былых выхаванкаў нашай роднай школы.

## Гісторыя аднаго жыцця

Сонца, быццам бы гуляючы ў хованкі, скрылася за гарызонтам. Ад лугоў пацягнула свежасцю, а вячэрняе паветра, перамешанае з пахам кветак, прыемным казытаннем распірае грудзі. Жыццё б'е спакайнейшым пульсам. Заблудаў... Пасёлак паступова засынае. Сям-там блісне ў вакне святло, вяртаюцца апошнія прахожыя, нехта скрыпне брамкай і, абапершыся на плоце, міргне жарам папяросы. Ідзеш бестурботна вуліцамі, якія неяк дзіўна звужаюцца пад напорам дамоў. Думкі самі ціснуцца ў галаў — колькі дамоў, столькі людскіх лёсаў скрываюць яны ў сваіх сценах. У кожнага з іх свае радасці і няшчасці, свае мары і расчараванні, за кожным пройдзеная дарога і чаканне новага. Чалавек, нібы кніга, кніга жыцця.

Вуліца І Дывізіі сорак дзевяць. Невялічкая хатка, поўнасцю аброслая вінаградам. Яшчэ дробныя зялёныя плады чакаюць сваёй спеласці. Пад напорам рукі адчыняецца брамка. Дрэвы растуць густа, сплятаюцца ўгару чупрынамі кронаў. Ідзеш быццам жывым зялёным калідорам, у канцы якога відаць двухпавярховы мураваны жылы будынак. Яшчэ некалькі разоў стукнуў малаток, і гаспадар, невысокі, з вусікамі, сярэдніх гадоў мужчына, прыўзняў галаву.

— Добры вечар!



*Ёзік з жонкай Мар'янкай.*

— Добры вечар! — адказаў прыветліва і працягнуў руку.

— Рынну куем?

— А так, ды не толькі. Трэба канчаць, — паказаў на новую хату. — На зіму добра было б перабрацца. Ідзіце наверх, я зараз.

Заблудаў — гэта пазнейшая частка жыцця Ёзіка Мінкевіча. Пачатак яго не тут. Хаця можна сказаць, што побач.

Нарадзіўся ён 10 лютага 1921 года ў маёнтку Дабжынёўка. Тут побач, тры кіламетры ад пасёлка. Бацька там працаваў. Потым бацькі пераехалі ў Гарымова, але праз нейкі час купіў пяцігектаровую гаспадарку ў Дабжынёўцы і зноў пераехалі на старое месца. Сям'я складаецца з пяці чалавек — бацькі, два сыны і сястра. І там засталіся.

— Што гэта за гаспадарка, — успамінае. — Ворнай было два з паловай гектары, гектар слабога лугу, а астатняя непрыдатная. Купілі, што было можна. Ага, была яшчэ заросшая сажалка.

Потым, семнаццацігадовым хлопцам, пачаў вучыцца ў пачатковай школе. Але трэба было працаваць, выбраць нейкі фах. Паслалі яго да столяра. Але зацікаўленні маладога хлопца былі іншыя. Ажыццявіліся яны з паступленнем да каваля, да Міхала Ланеўскага. — Тут з Дабжынёўкі. Добры быў майстар. Я ў яго быў шасцідзесятым вучнем. Не любіў тых, пра якіх ведаў, што нічога з гэтага не выйдзе. Вось я, бывала, кую, дык падыдзе, стане ззаду і глядзіць. Калі што не так, падкажа і зноў глядзіць. А першая справа, як б'еш молатам, мусіў ён хадзіць уздоўж кавад-

(Працяг на стар. 4)

 

## З БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

### ПЕРШААДКРЫВАЛЬНІКІ

Мінскі механічны завод — першае ў Савецкім Саюзе прадпрыемства, якое выкарыстала пры блакіроўцы аптычных дэталей токі высокай частаты (ТВЧ). Усе неабходныя разлікі нагрэву інструментаў, вадзянога ахаладжэння высокачастотнага індыкатара, унутранай вентыляцыі і рабочых месц зрабіў аўтар — заводскі рацыяналізатар і вынаходнік В. Жыркевіч пры творчым удзеле сваіх таварышаў па цэху. У тры разы павялічылася прадукцыйнасць працы, на 5710 рублёў сэканомлена цепла- і электраэнергіі. Спецыяльнасць набыла новы, самы сучасны змест, і цяпер рабочых, занятых на блакіроўцы лінз з дапамогай ТВЧ, называюць высокачастотнікамі.

### ГАВАНЬ ДЛЯ ПАВЕТРАНЫХ КАРАБЛЁЎ

Комплекс пасадачных сродкаў падрыхтаваны да эксплуатацыі ў будуемым міжнародным аэрапорце „Мінск-2“. У яго ўвашлі далёкі і блізкі прывадныя радыёмаякі, дыспетчарская, радыёлакатары. З іх дапамогай ужо цяпер можна ў выпадку неабходнасці прымаць самалёты.

І ўсё ж пакуль галоўнымі гаспадарамі на вялікай плошчы, куды ў недалёкім часе пачнуць прыбываць паветраныя падарожнікі, з'яўляюцца будаўнікі. Цяпер тут працуюць спецыялісты больш чым з дваццаці пяці арганізацый. Актывізавалася работа на ўзвядзенні аэравакзала. У ім упершыню ў айчыннай практыцы будуць зведзены пад адзін дах вакзал з чатырма заламі для розных напрамкаў палёту самалётаў, каманднa-дыспетчарскі пункт, гасцініца, прафілакторый, пошта, міжгародні тэлефон, ашчадная каса, кіназала, службы сэрвісу.

### КАЛЯНДАР

**300 гадоў назад**

25.8.1680 пам. Сімяон Полацкі (Самуіл Пятроўскі-Сітняковіч), беларускі грамадскі і царкоўны дзеяч, педагог, пісьменнік і публіцыст.

**210 гадоў назад**

27.8.1770 нар. Г. В. Ф. Гегель, нямецкі філосаф.

**120 гадоў назад**

30.8.1860 нар. І. Левітан, рускі жывапісец.

**70 гадоў назад**

25.8.1910 нар. У. Корбан, беларускі савецкі паэт.

**Niwa**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE”**

**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

Wydawca: RSW „Prasa—Książka—Ruch” Kombinat Wydawniczo-Kolportażowy w Białymstoku.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

Ogłoszenia przyjmuje: Biuro Reklam i Ogłoszeń ul. Wesołowskiego 1, 15—959 Białystok tel. 232-41 w. 278, oraz wszystkie biura ogłoszeń RSW „Prasa—Książka—Ruch” na terenie całego kraju. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności. Prenumeratę przyjmują Oddziały RSW „Prasa—Książka—Ruch” oraz urzędy pocztowe i doręczyciele w terminach: do dnia 25 listopada na I kwartał, I półrocze i na cały rok następny; do dnia 10 poprzedzającego okres prenumeraty na pozostałe okresy roku bieżącego. Cena prenumeraty: kwartalna 26 zł, półroczna 52 zł, roczna 104 zł. Jednostki gospodarki uspołecznionej, organizacje społeczne zamawiają prenumeratę w miejscowych Oddziałach RSW „Prasa—Książka—Ruch”, w miejscowościach zaś, w których nie ma Oddziałów, w urzędach pocztowych. Czytelnicy indywidualni opłacają prenumeratę wyłącznie w urzędach pocztowych i u doręczycieli. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje RSW „Prasa—Książka—Ruch” Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto PKO nr 1531-71, w terminach obowiązujących dla prenumeraty krajowej. Prenumerata ta jest droższa od prenumeraty krajowej o 50% dla zleceniodawców indywidualnych i o 100% dla zlecających instytucji i zakładów pracy.

„Niwa” — PLISSN-0546-1960. Nr indeksu 36671. Zam. 1256. Nakład 6.500 I-3





*У спякотны сонечны дзень на адным са скверыкаў горада Мінска.*
*Фота М. Гайдука.*

**Карэспандэнцыя з Гродна**

## Новыя паветраныя вароты

Як тэатр, кажуць, пачынаецца з раздзявальні, так горад амаль для ўсіх яго гасцей пачынаецца з вакзала, якім шляхам чалавек не прыбывае — па зямлі ці па вадзе, самалётам ці цягніком. Вакзал робіць першае ўражанне аб горадзе, у многіх выпадках стварае настрой.

Невялікі будынак Гродзенскага аэрапорта да нядаўняй пары задавальняў нас. Але час не стаіць на адным месцы — расце горад, з году ў год павялічваецца колькасць гасцей, а таксама нашых гродзенцаў, што хочуць наведаць іншыя мясцовасці краіны. І галоўнае — на змену старым самалётам прыходзяць новыя. Усё гэта вымагае новых умоваў працы.

Узлётна-пасадачная паласа і комплекс новых па архітэктурнай задуме гмахаў і абсталяванняў будучага аэрапорта пакуль што відаць толькі на макеце ды на планшэтах, што знаходзяцца ў цяперашняй невялікай пачакальні. Будова пачалася ў другой палавіне мінулага года ў вёсцы Абухава. У пачатковай стадыі першы этап работы — абсталяванне бетоннай узлётна-пасадачнай паласы. Яна разлічана на прыняццё самалётаў тыпу ТУ-134, ТУ-124, ЯК-40.

Праект апрацоўвае кіеўскі інстытут „Украэрапраект“. У бягучым годзе ён павінен падрыхтаваць дакументацыю для наступнага этапа пабудовы: абсталяванняў пасадкі і кіравання паветраным рухам. Гэта будынкі кантрольна-дыспетчарскага пункта, тэхнічных брыгадаў, сістэмы абагравання. Сучасны сяміпавярховы гмах кантрольна-дыспетчарскага пункта не будзе мець ніводнага падобнага ва ўсіх аэрапортах рэспублікі. Яго нетыповы праект зацверджаны на абласным архітэктурным савеце. Гэта будзе сучасны будынак са шкла і бетону. Яго правае крыло для прыбываючых, левае — для адлятаючых. Побач з будынкам аэравакзала — басейн, стаянка таксі, павільён для чакаючых аўтобуса. Для выгоды пасажыраў прадбачваецца абсталяваць утульную пачакальню, пакой маці і дзіцяці, багажнае аддзяленне, гасцініцу, пошту, два буфеты.

Калі вылет ці пасадка адкладаецца надоўга, пасажыры могуць адпачыць у зале доўгага чакання на 250 месц, а экіпаж самалёта — у прафілакторыі на 50 месц. Разам гэтыя аб'екты складаюць элегантны архітэктурны комплекс.

Апрача гэтага, прадбачваецца пабудова будынкаў кіравання портам са сталоўкай, аддзялення перавозу пошты і залы таварных перавозак. Трэба дадаць — колькасць перавозу тавараў і пошты тройчы павялічыцца. Асобна прадбачваецца абсталяваць прадпрыемства падрыхтоўкі харчавання на час палёту, дзе пасажыры, якія падаюцца ў далёкія палёты, будуць забяспечвацца прадуктамі. Спартыўны комплекс будзе служыць працаўнікам аэрафлоту.

З аддачай у карыстанне новага аэрапорта жыхары горада і вобласці атрымаюць магчымасць рабіць беспераcадачныя пералёты ў розныя мясцовасці нашай краіны: Сімферопаль, Адлер, Сухумі, Свярдлоўск, Чалябінск, Іркуцк, Краснаярск і шматлікія іншыя гарады.

Аэрапорт будуе „Гроднапрамбуд“. Навасць будовы стварае аб'ектыўныя цяжкасці, таму і тэмпы яе пакуль што не адпавядаюць пажаданням.

Праект цікавы, арыгінальны. І трэба яго ажыццявіць салідна, каб адчувалася ўжо ў „варотах“ — вы прыбылі ў сучасны, хутка растучы горад.

**Г. Праўда**




### УПАКОЎКА ДЛЯ СПАЖЫВЕЦКАЙ ПРАМЫСЛОВАСЦІ

Прадпрыемства ўпакоўкі „Пак-поль“ у Беластоку ўсё разбудоўваецца. Цяпер заканчваецца другі этап яго разбудовы. Беластоцкая фабрыка прадукуе перш за ўсё ўпакоўку з фальгі для спажывецкай прамысловасці. Упакоўваюць у яе збожжавыя прадукты, свойскую птушку, а таксама малочныя прадукты. Фабрыка ўсё больш прымяняе краёвую сыравіну (раней перапрацоўвала імпартную і толькі ў невялікай ступені краёвую) і такім чынам змяшчае замежную.

Прадпрыемства выпускае таксама ўпакоўку для радыёпрыёмнікаў, тэлевізараў, магнітафонаў і г.д.

Пасля заканчэння другога этапа разбудовы яно будзе прадукаваць шматслоевую фальгу для ўпакоўкі спажывецкіх прадуктаў. Такой фальгі яшчэ не прадукавалі ў нашай краіне. **(яц)**




**Успаміны бабулі (ваенныя, Анны Зінчук з Волькі Тэрахоўскай) • Паглядзець за сябе... (дык гляджу з гордасцю, — гаворыць Якуб Міранчук з Грабаркі) • Родныя галасы • З народнай абраднасці — навальніца • Цётка Мальвіна: сёе-тое аб каханні • Весткі з Чаромхі, Дубіч Царкоўных, Кляшчэляў, Крываціч, Нараўкі, Орлі • Калі прысніцца чорная хустка • Песня „Słodkie fijołki“.**




**Niedziela 24 VIII** — 7.00 TTR — Zajęcia wakac. sem. III. 7.20 TTR — sem. V. 7.40 Now. w domu i zagr. 8.10 Emerytury dla rolników. 8.20 Telewizjada. 8.55 Program dnia. 9.00 Kino Teleranka. Wakacyjna wyprawa — czech. film fab. 10.10 Antena. 10.35 Łotewska suita — film dok. 11.25 Milion ptaków wokół pustyni — fr. film dok. 12.20 Dziennik. 12.35 Rolnicze rozmowy. 13.05 Opera miesiąca. Giacomo Puccini: „Tosca” — cz. II. 14.25 Z kamerą wśród zwierząt. 14.55 Koncert życzeń. 15.40 Los. Dużego Lot. 15.50 Spacer po starej Pradze — film dok. 16.15 Poczet aktorów polskich — Zbigniew Cybulski. 17.05 „Sandokan” — odc. 4 film przyg. TV wł. 18.00 I liga piłki nożnej. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.10 Sopot 80. Koncert Finałowy — cz. I. 21.20 Sportowa niedziela. 21.40 Sopot 80 — cz. II.

**Poniedziałek 25 VIII** — 15.50 Program dnia. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Zwierzyniec. 16.55 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 17.20 Ocalić od zapomnienia. 17.40 Adam Sangala — odc. 3 (ostatni) — film hist.-przygod. TV CSRS. 18.50 Dobranoc. 19.00 Echa stadionów. 19.30 Dziennik. 20.10 Teatr Tel. Z. Pietras i K. Radowicz — Ostatnie tygodnie, ostatnie dni, ostatnie godziny. 21.30 Dwie strony medalu. 22.05 Świat i Polska. 22 50 Dziennik.

**Wtorek 26 VIII** — 9.00 Dla szkół — J. pol. kl. V—VI. 9.55 Czerwone, żółte, ziel. 15.20 Program dnia. 15.25 Klub Seniora. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Pr. roz. TV NRD. 17.00 Klinika zdrowego człowieka. 17.25 Małe Kino — Winda — film anim. 17.30 Sonda. 17.55 Szalony pościg — ameryk. film anim. 18.20 Studio Młodych. 18.50 Dobranoc. 19.00 Pr. roz. TV CSRS. 19.30 Dziennik. 20.10 Koniec wakacji — pol. film obycz. 21.40 Ex Libris. 22.05 X Y Z — cz. I. 22.30 Dziennik. 22.45 X Y Z — cz. II.

**Środa 27 VIII** — 9.55 Dla szkół: Muzyka dla kl. I. 15.50 Program dnia. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Jana z dżungli — odc. pt. Skradziona perła — ameryk. film anim. 16.50 Los. Małego i Express Lot. 17.00 Dom i my. 17.15 Radar. 17.30 Skarbiec. 17.55 I Liga piłki nożnej. 18.50 Dobranoc. 19.00 Camerata. 20.10 Filmoteka arcydzieł — Komedianci — cz. I pt. Ulica złoczyńców. 21.55 Konkrety. 22.25 Koncert podwójny A-moll op. 102 Johannesa Brahmsa. 23.05 Dziennik.

**Czwartek 28 VIII** — 9.00 Historia, kl. VI. 9.55 Dla szkół: J. pol. kl. VII. 15.20 Program dnia. 15.20 Czwartek TDC oraz film z serii Wo[illegible] planet. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Dla młodych widzów — Czwartek TDC — cz. II. 17.30 Lileo — zespół z Gruzji. 17.55 Magazyn lotniczy. 18.20 Studio Młodych. 18.50 Dobranoc. 19.00 Lekarz radzi. 19.05 Turystyka i wypoczynek. 19.30 Dziennik. 20.10 Ludzie z numerami — film krym. USA. 21.40 Pegaz. 22.30 Konfrontacje. 23.00 Dziennik.

**Piątek 29 VIII** — 9.00 Dla szkół: Geogr. kl. V. 11.00 kl. I—II. 12.50 Geogr. kl. VIII. 15.50 Program dnia. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Piątek z Pankracym. 16.55 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 17.25 Małe Kino — Syzyf — pol. film anim. 17.35 Daleko od szosy — odc. 4 pt. Oczekiwanie — pol. film obycz. 18.50 Dobranoc. 19.00 Magazyn bezp. ruchu drog. 19.30 Dziennik. 20.10 Lista obecności satyryków — M. Załucki. 20.50 Śpiewa Cherry Laine. 21.30 Mistrzostwa Polski w lekkiej atletyce. 22.05 Sensacje z przeszłości. 22.35 Wieczór profesorów. 22.50 Dziennik.

**Sobota 30 VIII** — 15.00 Program dnia. 15.05 Żołnierska wierność. 15.30 Wojna planet — odc. pt. Smok morski — ameryk. film anim. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Albrecht Dürer — Święto różańca — film austr. (dok.). 17.05 Węgierski pr. roz. 17.25 Studio Młodych. 17.55 I Liga piłki nożnej. 18.50 Dobranoc. 19.00 Świat, który nie może zaginąć. 19.30 Dziennik. 20.10 Komedianci — cz. II pt. Romans pajaca — fr. film fab. 21.35 Mistrzostwa Polski w lekkiej atletyce. 22.10 Blisko i daleko. 22.40 Dziennik. 22.55 Joanna Turska — pr. muz. 23.35 Dziwne i przerażające wydarzenia — ameryk. film fab. ([illegible]




**Piątek 22 VIII** — 8.05 Filmy anim. 9.25 Klub podróży. 18.35 Film fab. ser. 21.20 Puchar europejskich mistrzów w hokeju.

**Sobota 23 VIII** — 8.35 Film fab. ser. 13.45 Film fab. 14.55 W świecie zwierząt. 18.50 Film fab. 20.35 Koncert.

**Niedziela 24 VIII** — 13.00 Film fab. 14.40 Koncert życzeń. 15.40 Klub podróży. 16.40 Film anim. 17.00 Panorama międzynar. 18.05 Balet. 18.35 Film fab. 20.35 Puchar europejskich mistrzów w hokeju.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

**Беларуская радыёперадача: субота 12.05 — 12.25 (UKF).**




**Białowieża** Transamerican express — USA 26—27. Lot nad kukułczym gniazdem — USA 28—29. Cóżeś ty za pani — pol. 30—31.
**Bielsk Podl.** Drogi papa — wł. 25—26. Nie strzelać do nauczyciela — kanad. 27—28. Ale kino — USA 29—31.
**Czeremcha** Czarne i białe w kolorze — fr. 26—27. Siedem piegów — NRD 30—31.
**Czyże** Bądź błogosławiona — bułg. Werdykt — fr. 27—31.
**Gródek** Chłopiec z burzy — austral. 30—31.
**Hajnówka** Zapach kobiety — wł. 23—25. Rój — USA 26—28. Kung Fu — pol. 29—31.
**Michałowo** Sandakan — jap. 26—27. Rok święty — fr. 28—29. Ocalona — NRD 30—31.
**Mielnik** Buffala Bill i indianie — USA 27. Odbicie światła — czes. 30—31.
**Milejczyce** ... cóżeś ty za pani — pol. Pojedynek — ang. 27—31.
**Narew** Szalone dni — jug. Krótki sezon — wł. 27—31.
**Narewka** Czyje to prawo — węg. Charlie Brown i jego kompania — USA 27—31.
**Nurzec** Motyle — pol. 26—27. Narodziny gwiazdy — USA 28—29. Bezdroża — rum. 30—31.
**Orla** Panny z Wilka — pol. Nie ma dymu bez ognia — fr. 27—31.
**Rajsk** Na wielkiej rzece — czes. Tortury — fr. 27—31.

 

(Працяг са стар. 1)

# Вярсток

берасцейскаму Фёдару Букрабу каралеўскія падданыя з сяла Вярсток падалі каралеўскім чыноўнікам скаргу на сваіх прыгнятальнікаў. У ёй, між іншым, чытаем:

„Мы, убогія падданыя яго каралеўскай вялікасці з дзяржавы (г.зн. маёнтку, аддадзенага ў арэнду — М. Г.) вярстоцкае, якую атрымаў пан Працлаў Гарбоўскі — суддзя Зямлі Берасцейскай, а потым сыну свайму перадаў правы пану Лукашу Гарбоўскаму і не ведаем, якім чынам і ад каго атрымаў арэнду на гэтую дзяржаву вярстоцкую пан Матэуш Рагоўскі — чалавек нідзе не асеўшы. Той жа, нядоўга яе трымаўшы, перадаў арэнду вяльможнаму пану кашталяну падляшскаму Станіславу Нямеру. Гэты каля паўтары чвэрці трымаючы нас, вялікія нам крыўды і бяспраўі ўчыняў, беручы гвалтам беспадстаўныя падаткі і станцыі (харчаванне чыноўнікаў або войска), а слугі егамосці вялікія нам гвалты, шкоды і здзерствы рабілі, беручы з гумнаў, камораў, хлявоў без ніякай міласэрнасці, асабліва казакі і немцы егамосці (відаць, прыватнае войска кашталяна Нямеры), і то пры такім цяжкім недародзе. Апрача гэтага наш цяперашні пан падляшскі (г.зн. С. Нямера) гнаў у Нямераў (колішняе сяло Нівіцы на рацэ Буг, якое Нямера назваў сваім прозвішчам і ўзвёў на ўласны родавы маёнтак) і з вазамі, і з сохамі, і з валамі, і да жніва, а хадзіць жа так далёка (з Вярстка ў Нямераў каля 50 кіламетраў) на работу. Пазбыліся мы дабытку, коней, валоў і самі надта знясіліліся, цяжка працуючы. Калі ж мы пану егамосцю падляшскаму ўсё ў полі парабілі і пасеялі, тады егамосць загадаў сыпаць вал (абаронны) вакол горада Нямерава, не даючы нам ні перадыхнуць, ні адпачыць. А потым перадаў нас егамосць пан падляшскі пану Аборскаму, і той таксама нас прыгнятаў, ганяючы тыдзень з дрэвам з Белавежскай пушчы ў сваю маёмасць у Далубове павету Драгічынскага (каля 60 кіламетраў). І ў розныя месцы з падводамі нас пасылаюць, а цяпер нас б'юць, у казню саджаюць, грабяць — так што ад здзерстваў мы і не выжывем. А мы ж людзі вольныя каралеўскія і маем свае ўставы рэвізорскія і не маем абавязку рабіць, толькі ў Вярстку, толькі тры дні ў тыдні, а з падводай адзін раз у год па чарзе за тры мілі на торг, альбо калі па што-небудзь загадалі б, але не далей... І таму пратэстуем...“ А сярод падаваўшых гэтую скаргу з Вярстка былі: Пашко, Грыц Канаховіч, Вакула, Амяльян Дзяніскавіч, Карніла. Невядома, які быў вынік гэтага сялянскага пратэсту. Але мяркуючы па тым, што праз два дзесяцігоддзі разгарэлася народнае паўстанне пад кіраўніцтвам Хмяльніцкага і яно ахапіла таксама Берасцейскую Зямлю і суседняе з ёю Падляссе, усім гэтым вярстоцкім Пашкам, Вакулам, Карнілам, відаць, давялося ратавацца ад помсты „егамосці пана падляшскага Нямеры“ ўцёкамі, калі яны не хацелі жыўцом згніць у яго „казні“.

Нічога не памагло — Вярсток неўзабаве аказаўся ў прыватным уладанні. У сваёй фундушовай грамаце ад 1769 года падкаморый Зямлі Візненскай (яе сталіцай было мястэчка Візна на рацэ Нарве) Юзаф з Вільчэва Вільчэўскі на пабудову, абсталяванне і забеспячэнне на будучыню Уздзвіжанскай царквы ў Вярстку называе гэтае сяло „маёй спадчыннай маёмасцю“. Варта пры тым прыгадаць, што ў тым жа дакуменце гаворыцца, што царква гэтая ўзводзіцца на месцы раней існаваўшага тут храма.



*Старое і новае на панадворку ў вёсцы Вярсток.*

Вярстоцкі маёнтак закончыў сваё існаванне толькі недзе каля 1905 года, калі апошняя яго ўладальніца — дачка нейкага царскага генерала — распрадала зямлю сялянам у асноўным з Вярстка, што душыліся на сваіх вузенькіх „рэзках“. Сяло Вярсток знаходзілася ў вярсце на поўдзень ад маёнтку. Сядзела на 10 участках (па 14 дзесяцін кожны). У пачатку нашага стагоддзя, як прыгадвае 88-гадовы верстачанін Фёдар Крот, у сяле былі такія прозвішчы: Говін, Гопш, Дунда, Казак, Канарэўскі, Крот, Шэлест. Тады палеткі называліся: Багно, Волокі, Доліна, Загрэбля, Ковалёўшчына, Лобач, Рызочкі, Смолярня, Сэдліска. Каля 1908 года ў вёсцы ўспыхнуў пажар і яна датла згарэла. Людзі пакінулі пажарышча і пачалі будавацца на купнай зямлі, дзе раней стаяў „двуор“. На месцы ж колішняга сяла цяпер расце некалькі дзічак-груш ды завуць яго верстаўцы Старым Сэлом.

Дух непакорлівасці і бунту, відаць, ніколі не пакідаў тутэйшых людзей. Калі ў гадах 1922-23 у гэтых ваколіцах разгарнула дзейнасць Беларуская рэвалюцыйная арганізацыя, яе сувязным і аправізатарам стаў верставец Фёдар Крот. За гэта ён потым цяжка адпакутаваў катаванні ў бельскай дэфензіве і адсядзеў год у беластоцкай турме. Аднак гэта не перашкодзіла яму надалей удзельнічаць у беларускім прагрэсіўным руху, а славуты гімн Грамады „Ад веку мы спалі і нас разбудзілі...“ ён і сёння памятае ад першага і да апошняга слова.

У часе гітлераўскай акупацыі савецкія партызаны мелі ў Вярстку надзейную апору: іх тутэйшыя людзі ўспамагалі харчамі, адзежай, здабывалі ім амуніцыю і лякарствы. За супрацоўніцтва з партызанамі нямецкія карнікі расстралялі С. Говіна, Ф. Дунду, І. Самосюка, С. Скалковіча. Цяжкімі ахвярамі пісалася гісторыя сённяшняга ціхага і працавітага Вярстка...

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара

## Беларуская песня-80



*Ніна Такаюк з Мікуліч. На сёлетнім цэнтральным аглядзе заняла II месца сярод салістаў у катэгорыі фальклорнай песні. Фота М. Шаховіча.*

## Без задняй думкі

# ТАЛЕНТ

Высокая кулінарыя, як і кожная сапраўдная справа, а тым больш мастацтва, патрабуе прызвання, таленту і, як мінімум, здольнасці. А наш вопыт пераконвае ў адваротным. Вельмі часта мы бачым, як кухары даволі спрытна „лепяць“ тыя ці іншыя дзяжурныя блюды, зусім не зведваючы ніякіх „мук творчасці“. Кухар цяпер стаў настолькі масавай прафесіяй, што ў гэту сферу ідуць часам не задумваючыся. І маем тыя нясмачныя, дзяжурныя блюды, у якіх, дзе б вы не елі, той самы пах.

Вядома, здольных кулінараў на ўсе сталовыя не хопіць, дакладна таксама, як не можа быць соцень тысяч мастакоў і музыкантаў. Талент усё ж рэдкасць. Але ёсць і іншая прычына, па якой кулінарных талентаў значна менш, чым музыкальных.

Музыкальная здольнасць праяўляецца вельмі рана і, галоўнае, адразу ж яе прыкмячаюць іншыя. І таму яна амаль ніколі не можа астацца непрыкмечанай. Толькі вельмі неспрыяльныя ўмовы збіваюць музыкальна здольнага чалавека з любімай дарогі. У кожным выпадку, сам ён будзе адчуваць, што музыка — яго прызванне.

Кулінарнай жа здольнасці цяжка праявіцца, асабліва ў мужчыны. А ў жанчыны яшчэ часцей яе не прыкмячаюць, бо расцэньваецца як нармальная з'ява. Многія патэнцыянальна таленавітыя кулінары, як правіла, служаць кім хочаце: прадаўшчыкамі, інжынерамі, касірамі, бухгалтарамі, акцёрамі, вучонымі, а кулінарыяй займаюцца ў вольны ад работы час, не падазраючы, што гэта не выпадковая схільнасць, а сур'ёзнае прызванне, часам і наўмысна скрываючы гэтую тайную страсць з пачуцця фальшывай сціпласці і фальшывага сораму.

Аб такіх патэнцыяльных кулінарных талентах яшчэ менш ведае акружэнне, а калі даведаецца, дык пасля некалькіх дзесяцігоддзяў, калі позна такому чалавеку вучыцца на кухара, бо да гэтага часу ён ужо стаў аграномам, або машыністам, або пісьменнікам і яго талент успрымаецца ў найлепшым выпадку як капрыз, а часам як недарэчнае дзівацтва.

*(В. Похлёбкин: „Тайны хорошей кухни“)*

Кніжная паліца

# Пра велічную і гордую

„Якая яна, мая зямля? — перапытвае вядомы беларускі пісьменнік Уладзімір Караткевіч ва ўступным слове ў альбоме **„Памяць Зямлі Беларускай“***) і адказвае: — Гэта залатыя палі збажыны з сінімі вочкамі васількоў, светлыя ад бяроз гаі, што аглухлі ад птушынага звону, і пушчы, падобныя на гатычныя храмы, пушчы, дзе горда нясуць свае кароны алені. Гэта бясконцыя жылы рэк, у якіх плешчуцца бабры і рыба на захадзе сонца, і гэта амаль адзінаццаць тысяч азёр, чыстых, як усмешка дзіцяці“. І якраз на фоне гэтай прыгажосці складальнік альбома Мікола Сінькевіч і мастак Уладзімір Басалыга на звыш дзвюхстах каляровых фатаграмах далі магчымасць шырокаму колу чытачоў на свеце (выданне выйшла тыражом у 50 тысяч экземпляраў з тэкстамі і подпісамі да фатаграмаў на беларускай, рускай, англійскай, французскай, нямецкай і іспанскай мовах) сапрычасціцца з „добрай і суровай памяццю, якая нічога не забывае, Памяццю Беларусі“.

У альбоме знаходзім здымкі помнікаў гісторыі, ваенных подзвігаў, культуры і архітэктуры. З мноства аб'ектаў, якімі ў гэтых дзялянках багата Беларусь, аўтары выбралі не толькі самыя каштоўныя і паказальныя, але якраз тыя, што ствараюць уласцівы адной Беларусі, своеасаблівы каларыт. Сярод іх знаходзім услаўлены Купалам „удзірванелыя курганы векавечныя“, жамчужыну беларускага будаўніцтва XII стагоддзя — Спаса-Ефрасінеўскі сабор у Полацку, цудоўны Нясвіжскі палац з XVI-XVIII стагоддзяў, легендарны Камень Бурачка ў Кушлянах на Гродзеншчыне, скромненькі помнік на магіле В. Дуніна-Марцінкевіча ў Тупальшчыне на Міншчыне, помнік нашаму слаўнаму земляку родам з вёскі Козлікі каля Заблудава — Герою Савецкага Саюза, Маршалу В. Д. Сакалоўскаму ў Гродне, жылыя камянічкі з Паставаў.

Адным з апошніх у альбоме змешчаны здымак калодзежа пад мудрагелістым дашком з гонтаў з Віцебшчыны. І ў ім — самым скромным фотаграме — хіба ж найбольш поўна выявіўся сэнс гэтага элегантнага выдання, пачарпнуўшага ўсяго адну кроплю з вечна жывой крыніцы мінулага беларускай зямлі.

„Пранікніцеся любоўю да маёй роднай Беларусі, людзі, — усклікае У. Караткевіч і з непахісным перакананнем сцвярджае: — Велічная і гордая, яна таго вартая“.

**(мг)**
Фота аўтара

*) „Памяць зямлі Беларускай“, 1979, цана 138 зл.



*Помнік ахвярам Трасцянецкага лагера смерці. Архітэктар Л. Каджар. Вялікі Трасцянец, Мінскі раён.*

## Беларускія кнігі

У кнігарні імпартных выданняў у Беластоку можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове:

Нашчадкі, 1979, стар. 352, цана 32 зл.

Кніга паэзіі, якую склалі творы аўтараў розных узростаў і прафесій, розных творчых манер і тэматычных зацікаўленняў.

**Кляўко Г.,** Плуг, 1978, стар. 128, цана 10 зл.
Зборнік вершаў і паэм.

**Лойка А.,** Лінія жыцця, 1978, стар. 112, цана 9 зл.
Томік вершаў і паэм.

**Правасуд У.,** Любоў без узаемнасці, 1979, стар. 96, цана 5 зл.
Кніжка свежага гумару.

**Мушынскі М. І.,** Беларускае савецкае літаратуразнаўства, 1979, стар. 96, цана 6 зл.
Кароткі, змястоўны агляд гісторыі беларускага літаратуразнаўства, падрыхтаваны і выдадзены ў сувязі з 50-годдзем Акадэміі навук БССР.

**Ажагоўская Г.,** Хлопчык шыварат-навыварат, 1978, стар. 192, цана 8 зл.
Зборнік склалі дзве аповесці польскай пісьменніцы ў перакладзе на беларускую мову: „Хлопчык шыварат-навыварат“ і „Аднойчы, калі я хацеў быць высакародным“.

**Сямёнава А.,** Гарачы след таленту, 1979, стар. 192, цана 8 зл.
Кніга крытычных эцюдаў пра творчасць сучасных беларускіх пісьменнікаў.

Кнігарня высылае кнігі за паштовым залічэннем. Запатрабаванні накіроўвайце па адрасу: „Dom Książki”, 15-089 Białystok, ul. Kilińskiego 10.

**(мг)**

 

## Гмінныя навіны

### ЯНЫ ВЫБРАЛІ СПЕЦЫЯЛІЗАЦЫЮ

У Нараўкаўскай гміне 10390 гектараў зямельных угоддзяў, у тым ліку 5390 га ворыўнай зямлі і 5000 га зялёных угоддзяў: сенажацяў і пасбішчаў. 80 працэнтаў тэрыторыі займаюць глебы V і VI класаў. Умовы для гаспадарання тут не найлепшыя. Жыта, авёс і бульба ў гэтай гміне найбольш папулярныя сельскагаспадарчыя расліны. Добра развіваецца гадоўля малочных кароў і ўбойнай рагатай жывёлы. З гэтай мэтай у 1979 годзе пабудавалі чатыры сельскагаспадарчыя будынкі і тры мадэрнізавалі. Пабудову новай хлеўні закончыў Уладзімір Барташэвіч са Скупава, абораў — Мікалай Каролька з Капітаншчыны і Юзэф Сватко са Смольнай і аўчарні — Станіслаў Харашэўскі з Парослага (ва ўсіх гэтых будынках разам звыш 300 месц). Мадэрнізавалі кароўнікі Мікалай Болбат з Новага Ляўкова і Рыгор Янюк са Скупава і свінарнік — Раман Пучынскі з Тарнопаля. У бягучым годзе сяляне пабудуюць чатыры інвентарскія будынкі на звыш 200 месц і чатыры мадэрнізуюць.

Сёлета жыхары Нараўкаўскай акругі намераны павялічыць свой статак на 163 каровы, 425 свіней і 246 авечак. Склалі яны заказы на пакупку 20 трактараў, 15 бульбакапалак і 8 электрадаілак. Хлебаробы намераны запарыць 246 тон бульбы, зрабіць 904 тоны квашанак і сабраць 693 тоны кукурузы. Шэсцьдзесят асоб запісалася на сельскагаспадарчыя курсы на атрыманне звання кваліфікаванага земляроба, якія арганізавалі ў Нараўцы і Старым Ляўкове.

У Нараўкаўскай гміне існуе 1470 індывідуальных гаспадарак. У іх 4245 штук быдла, у тым ліку 2600 малочных кароў і 2500 авечак. У мінулым годзе яны прадалі дзяржаве 351 тону жывой вагі ялоўніку і 267 тое свінней, 1535 тон бульбы і 3 мільёны 800 тысяч літраў малака (у гэтай дзялянцы быў гэта самы рэкордны год). Усіх сельскагаспадарчых пладоў прадалі на суму 52 млн. 671 тыс. злотых. Сяляне карыстаюцца 102 трактарамі, 45 элеватарнымі бульбакапалкамі, 34 касілкамі і 4 збожжавымі камбайнамі. Значная колькасць гэтых машын у гаспадароў-спецыялістаў.

Яшчэ тры гады таму назад не было ніводнай спецыялістычнай гаспадаркі. Цяпер ёсць іх 39, у тым ліку 30 жывёлаводчых. Гаспадараць яны на 347 гектарах сельскагаспадарчых угоддзяў.

Найлепшымі з добрых гаспадароў, якія пачалі спецыялізавацца ў жывёлаводстве і раслінаводстве і дабіліся ў гэтым найбольшых поспехаў, з'яўляюцца: Ян Сухадола з Тарнопаля, які ў мінулым годзе прадаў на пунктах скупкі ўсіх сельскагаспадарчых пладоў на суму 378 тысяч злотых, Станіслаў Харашэўскі з Парослага (ён прадаў на суму 355 тысяч злотых), Канстанцін Самасевіч са Скупава (313 тыс. зл.), Мікалай Пучынскі з Новага Ляўкова (285 тыс. зл.), Ян Семяняка з Міклашэва (263 тыс. зл.), Мікалай Болбат з Новага Ляўкова (236 тыс. зл.), Ян Янель з Тарнопаля (213 тыс. зл.), Канстанцін Самоцік з Лукі (212 тыс зл.), Раман Пучынскі з Тарнопаля (198 тыс. зл.), Альфонс Болтрык з Тарнопаля (197 тыс. зл.), Мікалай Харкевіч з Ляшукоў (194 тыс. злотых), Міхал Валкавыцкі з Заблотчыны (188 тыс. злотых).

Найлепшы гаспадар Ян Сухадола вядзе 17-гектаровую гаспадарку і спецыялізуецца ў гадоўлі малочнага і ўбойнага быдла. Станіслаў Харашэўскі вядзе 23-гектаровую гаспадарку і спецыялізуецца ў гадоўлі авечак (мае ён новую аўчарню на 200 месц). Канстанцін Самасевіч вядзе 6-гектаровую гаспадарку і спецыялізуецца ў свінагадоўлі. У гэтых найактыўнейшых гаспадароў найвышэйшая сельскагаспадарчая прадукцыя ў гміне і найбольшы прыбой грошай. Грошы яны прадназначаюць найчасцей на павышэнне жыццёвага ўзроўню. Маюць у сваіх хатах добрую мэблю, дарагія тэлевізары, моднае адзенне, машыны хатняга ўжытку.

**Я. Целушэцкі**

Толькі скнара і лянівы
Не выпісвае „Нівы“

## Жонкі Ягайлы

Кароль Уладзіслаў Ягайла, славуты пераможац з-пад Грунвальда, меў даволі каляровую гісторыю жыцця. На яго тэму паўстала шмат легенд. Некаторыя з іх носяць знакі праўды, іншыя ж — гэта відавочна хлусня. А часам здаецца так, што проста немагчыма адзяліць праўду ад хлусні. Цяжкасці з гэтым маюць нават самыя сур'ёзныя, настойлівыя гісторыкі.

Сёння, абапіраючыся на гістарычныя пераказы, хацеў бы я расказаць чытачам „Нівы“ крыху аб жонках Ягайлы, якіх ён меў аж чатыры. Але нямнога Ягайла пакаштаваў слодычы сямейнага жыцця. Не меў шчасця да жанчын.

Каралева Ядвіга, з якой Ягайла ажаніўся ў сакавіку 1386 года, хаця ёй у той час было толькі 15 гадоў (Ягайлу жа аж 38) мела ўжо за сабой не адну любоўную прыгоду. Галоўным чынам з аўстрыйскім князем Вільгельмам, з якім, уласна кажучы, была заручана чатырохгадовай дзяўчынкай. Калі малапольскія паны пачалі дагаварвацца з Ягайлам, Вільгельм не вытрымаў і прыехаў у Кракаў да Ядвігі. Калі не хацелі яго да яе дапусціць, сустрэўся з ёй патаемна ў клаштары францішканаў. Паводле некаторых версій, спаў з ёю 15 начэй. Ядвіга нават хацела з ім уцячы. Перашкодзіў аднак у гэтым падскарбі каронны Дзімітр з Гарая. Ядвіга была Ягайлу непрыхільна як перад шлюбам, так і пасля шлюбу. Сам кароль, зрэшты, не спяшаўся празмерна да жонкі. Пастаянна падарожнічаў або паляваў. Маладая каралева, паводле чутак, будучы ўжо і замужам, сустракалася з Вільгельмам. Супроць Грыгорыя з Далевіц (даўнейшага прыяцеля Вільгельма), які аб працягваючайся любоўнай сувязі каралевы з былым нарачоным паінфармаваў Ягайлу, польскія паны ўзбудзілі справу. Перапужаны такім абаротам справы, Грыгорый сваіх закідаў на працэсе не падтрымаў. Мусіла аднак у гэтым штосьці быць, калі Ягайла праз некалькі гадоў надзяліў яму пасаду кракаўскага падкаморнага. Ядвіга памерла ў 1399 г., калі было ёй 28 гадоў.

Другая жонка Ягайлы, Анна, дачка графа цылейскага — Вільгельма, таксама не прынесла яму шчасця. Хаця была вельмі непрыгожая, лікам сваіх палюбоўнікаў куды перавысіла Ядвігу. Амурнічала з Якубам з Кабылян, Мікалаем Хшаноўскім, Янам Тэнчынскім, а быццам і з архіепіскапам гнезненскім — Мікалаем Куроўскім. Таму і не быў упэўнены Ягайла, ці дачка Ядвіга, якую Анна нарадзіла, была сапраўды яго. Зрэшты, Ядвіга неўзабаве памерла. Праўду кажучы, кароль не любіў сваёй другой жонкі. Ажаніўся з ёй толькі таму, каб умацаваць свае правы на польскую карону (Анна была ўнучкай Казіміра Вялікага). Дык і не быў у роспачы, калі Анна памерла (у 1416 г.).

Ягайлу было ўжо тады 68 гадоў і вельмі яго трывожыла тое, што не меў нашчадка. Пастанаўляе ізноў жаніцца. Гэтым разам бярэ мілую свайму сэрцу Альжбету Пілецкую, дачку сандомерскага ваяводы. Трэба аднак ведаць, што Альжбета была ўжо ўдавой па трэцім мужу. Было ёй больш сарака гадоў. Шлюб іх адбыўся ў маі 1417 г. у Саноку. На жаль, і трэцяя жонка не дае Ягайлу нашчадка. Памірае вясной 1420 г.

Кароль прабуе шчасця чацверты раз. У 1422 г. жэніцца з Сонькай (Софіяй), дачкой кіеўскага князя Андрэя. Яму ўжо 74 гады, і мала хто верыць, што ў такім узросце можна мець дзяцей. Аднак здарылася неверагоднае. Сонька дала Ягайлу двух сыноў (трэці памёр яшчэ дзіцём). У 1424 г. нарадзіла Уладзіслава (Варненчыка — караля польскага, а потым венгерскага, які загінуў пад Варнай у 1444 г.) і ў 1427 г. — Казіміра (Ягелончыка — караля польскага, які жыў аж да 1492 г.). Нягледзячы на тое, што Сонька, як і дзве першыя жонкі Ягайлы, мела сваіх палюбоўнікаў, амаль ніхто не ставіў пад сумненне бацькоўства караля. Сыны былі падобныя на бацьку з твару і па характару.

Ягайла памёр 1 чэрвеня 1434 г. ва ўзросце 86 гадоў.

**П. Байко**



**МАЯ МАМА З КАЛАЎРОТАМ**

*Ольга Сідарук з вёскі Кузава каля Чаромхі. Прадзе воўну.*

*Фота Ул. Сідарука*



**Дарожныя партрэты.** Прадаўшчыца Марыя Хлябіч з Бандароў (гміна Міхалова). Фота Я. Целушэцкага.

## У адноўленых школах

**У Міхалове** вучні зборнай гміннай школы і ліцэя новы навучальны год 1980/81 прывіталі ў адноўленых класах. Усё аж блішчыць, ад сцен цяжка адарваць вочы. Класы пасвятлелі, з[illegible]біліся больш прасторнымі. Калідоры, гардэроб, а таксама кухня вітаюць уваходзячых свежасцю і гасціннасцю. Гэта заслуга саміх вучняў. Гэта яны яшчэ ў канцы мінулага школьнага года ўсё акуратна памалявалі. Калі б за ўсё прыйшлося заплаціць, дык спатрэбілася б 170 тысяч злотых, а так за фарбу заплацілі няцэлыя 15 тысяч злотых.

**У Нараўкаўскай гміне** адрамантавалі будынак сельскагаспадарчай школы ў Альхоўцы і ў семяноўскай школе пабудавалі новыя печы і памалявалі класныя залы. У прадшколлі ў Нараўцы адсвежылі кухонныя памяшканні.

Новы гардэроб пабудавалі ў зборнай гміннай школе ў **Кляшчэлях.** У ёй таксама прыгожа памалявалі сталовую. У прадшколлі паспяхова закончылі пабудову печаў і маляванне. Цяпер тут намнога прыемней і ўтульней. У Кляшчэлеўскай гміне ў Палічнай зроблен рамонт печаў.

Усе гэтыя школы добра падрыхтаваліся да прыняцця ў новым годзе ўсіх дзяцей у светлыя класы, упарадкаваныя і чыстыя. Прадметныя кабін[illegible] папоўніліся школьнымі дапаможнікамі. У іх шмат экспанатаў і табліц-train планшаў для вывучэння прыродазнаўства, геаграфіі, гісторыі, польскай і беларускай моваў. Усё гэта, несумненна, будзе спрыяць таму, што школы даб'юцца добрых вынікаў у бягучым школьным годзе як у навуцы, так і ў дысцыпліне.

**(ця)**

## Гісторыя аднаго жыцця

(Працяг са стар. 1)

ла, а ніколі папярок. Паміраць буду і буду памятаць, бо ён узяў мяне за руку і так паказаў.

У каваля працаваў тры гады. Спачатку вучыўся, потым за грошы. Але майстар пазнаў цягу ды талент хлопца і сказаў, што за яго працу купіць яму ўсе кавальскія прылады. А пачалося з таго:

— Пакінуўшы працу ў столяра, — успамінае, — вырашыў пайсці падзарабіць. І касцюм мой адзіны знішчыўся, вядома, пры сталярні. Другой вопраткі не меў. Думаю, падзараблю і куплю. Дзе? Дык я ў гэтага каваля наняўся малаціць цэпам. І аднойчы я малачу, а ён раскручваў плуг. Але возьме ключом — а шруба круціцца. Знерваваўся, кінуў і пайшоў дахаты. Я тады падыйшоў да плуга, забіў зубіла паміж лямешам і вінкелем, узяў ключ і адкруціў. Усё палажыў і малачу. Ён прыйшоў, паўглядаўся...

Назаўтра хлопец прыйшоў з бацькам. Майстар сказаў, што бярэ яго да сябе.

— Што гэта была за радасць, — яшчэ сёння, успамінаючы, цешыцца Езік Мінкевіч.

Днямі і начамі праседжваў ён у варштаце. Знайшоў сябе. Кузня была яго цэлым жыццём. Усе ішлі на танцы, сядалі на прывулічных лаўках, адпачываючы пасля працавітага дня, а ў кузні М. Ланеўскага спявала пад ударам молатаў кавадла. Тут яго заставала і раніца.

Потым пачалася вайна. Каваль ужо моцна хварэў і неўзабаве памёр. Не здзейснілася абяцанне, не атрымаў Езік абяцаных кавальскіх прыладаў, хаця ўсе былі падрыхтаваныя. Дарам прапала яго праца. Жонка памершага і слухаць аб гэтым не хацела. Прапала, дык прапала. Маючы ў руках фах, усё зрабіў сам. Вайна... Прыйшлі немцы.

— Я падаў прашэнне на дазвол адкрыцця кузні. Дазволілі. Пачаў працаваць.

Умеласць Мінкевіча была вядомая на ўсю ваколіцу. То аднаму, то другому ляснічаму стрэльбу наладзіць. Чуткі дайшлі да партызан. Пачалі прыходзіць.

— А ў мяне тады ўсё было прымітыўнае. Праўда, меў кавадла і прылады, але не было памяшкання. Вынесу ўсё на поле, абстаўлю фанерай і гэтак працую. А іду спаць, дык зноў усё пахаваю.

Пачаткова партызаны прыходзілі ў разведку — хто, што за чалавек? Потым зачасцілі. Каваль быў ім неабходны. Тым больш, добры каваль і надзейны чалавек. І супрацоўніцтва Езіка Мінкевіча з савецкімі партызанамі працягвалася аж да вызвалення. Найчасцей прыносілі ладзіць зброю. То пісталеты, то аўтаматы, а некалькі разоў і кулямёт прыносілі. Больш-менш два разы ў тыдзень прыходзілі.

— А мне не было нічога, каб я не мог зрабіць. Адна радасць была, што ўмею, а другая — што партызанам, сваім.

Потым раздабыўся і ўдалося паставіць свой варштат. Не трэба было пераносіць, хаваць. Была, як на тыя часы, сапраўдная кузня. Варштат стаяў на хутары. Партызаны добра ведалі. І ім гэта адпавядала. Не тое, што ў вёсцы, што трэба скрывацца. Падыходзілі смела. І недалёка было. Атрад стаяў каля Жэдні, восем кіламетраў ад хутара.

— Нярaз і поўнасцю ружжо зрабіў. Раз цэлы затвор зрабіў, — гаворыць. — Рабіў ноччу. Завешу вокны, каб святло не прасочвалася, пастаўлю кавадла на зямлі, каб не было водгуку, карбітоўка гарыць — і раблю.

Але аднойчы адна жанчына падгледзела. На другі дзень рэвізія. Наехала іх поўны панадворак. Жандармерыя.

— Мы сядзелі ў хаце. Мо прысвятак быў. Хіба так, бо і дзяўчаты сядзелі і хлопцы. І прыехалі. Адразу ў кузню. А ў мяне там аўтамат. Якраз у куце стаяў, розным ломам прыкрыты. Не знайшлі.



 

Імпартгумар

## АБРАЗА

Грукнуўшы дзвярыма, Булачкін ускочыў у парылку. І аж прысеў, захаўкаў ротам. Гарачыня нясцерпная. З-за клубаў пары нічога нельга разгледзець. Нават настрой сапсаваўся. Крыху „акліматызаваўшыся“, Булачкін абурыўся.

— Што робіцца, што робіцца. Ай-яй-яй. Гэй! Ёсць тут хто жывы?

Уверсе хтосьці чмыхнуў, запляскаў венікам.

— Гэй, чалавеча! Ты, мабыць, з глузду з'ехаў? Сябе не шкадуеш, дык хоць... Зваліпся з палка.

Памалу гарачыня стала спадаць. Булачкін — супакойваецца. Узабраўся вышэй, прылёг.

— Гэй, ты, як там цябе?

— Пятро... — хрыпла данеслася з кутка.

— Хм, Пятро. Імя добрае. Ну-тка, Пеця, прайдзіся венічкам. Ды толькі акуратненька, лёгенька. У меру. Меру трэба знаць, Пеця, ва ўсім. А ты вось наўрад ці знаеш. Чаго людзі ў лазню ходзяць? Ад стомы вызваліцца, папарыцца, памыцца як след. А ты чаго прывалокся? Думаеш, не здагадваюся? Гарэлку ты, Пеця, любіш. А жонкі баішся. Вось і рашыў хмель з галавы ў лазні выгнаць. Агідна глядзець на жывот твой адвіслы. Ногі трасуцца. Цьфу... Меру знай, Пеця. Давай, давай, весялей! А то заснуць можна...

Настрой вяртаўся. Яшчэ прыемней стала Булачкіну, калі пачаў думаць аб сённяшнім вечары. Ён быў запрошаны на імяніны начальніка. Добрай душы чалавек. Самага першага запрасіў. Давярае, значыць. Мо нават у галаве задуму якую носіць. Мо сваім намеснікам хоча зрабіць. Якраз пасада вызвалілася. Ну, а Булачкін у даўгу не застанецца. Сёння вось падаруначак імянінніку праз знаёмых прыдбаў — любата!

— Эх, Пеця! Адсталы ты чалавек. Табе толькі лазеншчыкам і працаваць. Ха-ха... Больш ты нікуды не варты. Ну, хопіць, хопіць. Бач ты яго, разышоўся!

Пеця з палёгкай уздыхнуў. Хуценька выкаціўся з парылкі.

Булачкін быў задаволены. Адвёў душу. Папарыўся добра.

Спаласнуўшыся, Булачкін падаўся ў раздзявалку. Ля адной шафы таптаўся Пеця, нацягваючы штаны.

— Гэй, Пеця, мо дапамагчы? — весела гукнуў Булачкін, адкрываючы сваю шафу. — Бедалага...

Пеця выпраміўся, злосна зірнуў на Булачкіна. Ад гэтага погляду Булачкін анямеў, вырачыў вочы. Гэта быў... Пятро Хведаравіч, начальнік Булачкіна. Не пазнаў яго Пеця з-за густой пары.

Настрой у Булачкіна прапаў зноў. На гэты раз, напэўна, надоўга.

**А. Удодаў**



*Геліязагартроп. „Made in Zadrypanka“.*

**Усё жыццё купаўся ў праменнях славы, але так і не адмыўся дарэшты.**

## НІЎКА



*— Гэта толькі наш аўтаматычны пілот.*

### НАЗОЛА

Адчуваючы мой мяккі характар, яна насядала і насядала на мяне. Тады я вырашыў ухінуцца ад сваркі. Але не ўдалося. Яна знаходзіла мяне ўсюды. Тады я пачаў праганяць яе. Яна крыўдзілася і на вачах ператваралася ў злосную фею. Усё больш раздражняўся і я. Але яна на гэта не звяртала ніякай увагі. Сам не помню, як дайшоў да таго, што падняў на яе руку. І... забіў, забіў назойлівую муху.

**А. Свечкін**

З „Весніка Задрыпоніі“

### СЛУЖБА ЗНАЁМСТВА

Нестандартны выпадак знаёмства здарыўся з магістрам Алай Шуховіч, якая знайшла сабе мужа ў капусце. Свайго будучага благавернага, таленавітага прафесара М. Кораня, яна выкапала на гароднінай базе.

### ПЫТАННЕ ДАЦ. СКОКА

Ці кружыцца галава ад поспеху у конніка без галавы?

## ДЭМБЕРЫШЫ

### АДДАНАСЦЬ ПАДХАЛІМА

Цураўся сябрука ў жыцці завесці,
Стараўся абмінуць братоў, сясцёр,
Не цешылі яго сустрэчы з цесцем,
Забыў сцяжынку на бацькоўскі двор,

Воч не паказваў і другой радні —
Ён падхалімам быў у старшыні.

**Лявон Анціпенка**

### САРОКА

Адна Сарока на ўвесь край
Вядомай птушкай раптам стала:
Яна ў сталічным парку „Гай“
Пралётам, кажуць, стракатала.

**Пятро Перац**



*— Тата нам напіша ў вершах.*

### МАГЛО БЫЦЬ ГОРШ

Кастусь спытаў сябра:

— Што ў цябе сёння на вячэру?

— Няма нічога. Ты ж ведаеш, я саламяны ўдавец.

— Яно, вядома, дрэнна, а магло быць горш. У мяне таксама няма нічога, але затое ёсць госць.

### ХТО КАГО...

Ідуць двое вуліцай, а ім насустрач — трэці. Адзін кажа сябру:

— Давай абыдзем яго.

— А чаму?

— Я вінен яму сто злотых.

— Не хвалюйся. Ён сам нас абыдзе, бо мне вінен дзвесце злотых.



*Без слоў.*

### НА Ш[...]РОКІМ СВЕЦЕ

Пачуўшы крык аб дапамозе, прахожы ўбег у дом. Заплаканая маладая жанчына растлумачыла яму, што яе малы толькі што праглынуў чвэрць долара. Незнаёмец, не трацячы часу, узяў малога за ногі, моцна страсянуў, і манета ўпала на падлогу.

— Ах, доктар, — закрычала шчаслівая маці, — як я ўдзячна вам!

— Я не доктар, — адказаў выратавальнік, — я зборшчык падаткаў.

*

— Ты ведаеш, я чытала, што страус вельмі дрэнна бачыць, а яго страўнік можа пераварыць усё, што хочаш.

— Ах, які б гэта быў цудоўны муж!

*

— Калі б вы ведалі, як мая жонка любіць пагаварыць! Калі яна была на курорце, у яе загарэў нават язык!



*— Вы падаеце не па правілах!*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

## Tango retro

z repertuaru Wojciecha Młynarskiego

**słowa: Wojciech Młynarski**
**muzyka: Maciej Małecki**

Raz kompozytor nad wyraz ambitny,
laureat wielu słynnych Grand Prix,
poczuł cudowny, ledwo uchwytny
natchnienia nakaz, co w duszy tkwi.
Żółtych ołówków zaostrzył więc furę,
do instrumentu usiadł co tchu
i z klawiatury na partyturę
spod smukłych palców spłynęło mu

słodkie tango retro,
serc niewieścich wstrząs,
co damskim korkom i męskim getrom
tak posuwisty nadaje pląs.
Słodkie tango retro,
umiar, wdzięk i styl,
którego żadne mody nie zetrą
to tango retro, o le! czar minionych chwil...

Znajomy krytyk na kawkę wpadł z rana,
awangardowych dzieł anioł stróż.
„Mistrz niewyspany? Matko kochana!
Cóż na warsztacie u mistrza, cóż?"
Wysłuchał tanga z powagą okropną,
krzyknął: „Powietrza" i zaczął mdleć.
Mistrz przerażony otworzył okno,
a na podwórzu już nucił cieć

słodkie tango retro...

W utworze tym winna być jeszcze pointa
w trzecim kuplecie, au troisieme couplet.
Dla mnie to mięta, niech to pamięta
kto kiedykolwiek mnie słuchać chce.
Gdy stwierdzi ktoś, że ten los to nie bajka,
niechaj ktoś taki co w piersiach tchu
pędzi i błaga kolegę grajka,
by na pociechę odegrał mu

słodkie tango retro,
serc niewieścich wstrząs,
co damskim korkom i męskim getrom
tak posuwisty nadaje pląs.
Awangardy swetrom,
które przywdział świat,
niech tango retro przypomni te tro...
te trochę wdzięku, o le! z dawnych dobrych lat...

## КУРЁЗЫ

### ЗАЛАТЫ АБУТАК

Абутак, як вядома, бывае самы разнастайны. Кожны хоча, каб быў ён трывалы, прыгожы і, калі гэта магчыма, куплены за не вельмі вялікія грошы. Таму, відаць, мала хто паверыць, што дзенідзе лічаць найлепшай якасцю гэтага простага прадмета ўжытку... найвышэйшую цану.

У апошні час сярод багатых англічан стала модным насіць вельмі дарагі абутак. Нейкія там пантофлі з'яўляюцца атрыбутам прэстыжнасці, які характарызуе чалавечую годнасць гаспадара.

Робіцца такі дарагі абутак не проста са скуры ялавай ці там свіной, а з футра норкі, да таго ж упрыгожваецца жэмчугам і рубінавымі каменнямі ў залатой аправе. Затое ж і кошт залаты: за пару туфляў трэба заплаціць да 4,5 тысячы долараў.

Тым не менш для аматараў такіх незвычайных прыналежнасцей туалету не хапае пажаданага тавару. Ім даводзіцца нямала часу чакаць, пакуль заказ будзе выкананы, бо робіцца ён старым рамесніцкім спосабам, без выкарыстання тэхнікі.

### РЫХТУЮЦЦА ДА ЖЫЦЦЯ?

Газета такійскага універсітэта Васэда паведамляе, што ледзь не трэць студэнтаў юрыдычнага факультэта крадзе ў магазінах кнігі, прадукты харчавання і г.д. Ці не ад таго гэта, што студэнты старанна падрыхтоўваюцца да прафесіянальнай дзейнасці, каб лепш разумець псіхіку сваіх будучых падапечных — крымінальнікаў?..

## Смяюся з намі

**Усе паветраныя замкі былі здадзены датэрмінова з ацэнкай „выдатна“.**